

# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 33 (572)** **28 ЖНІЎНЯ 2002 г.**

## На полі Славы!

У гісторыі кожнай краіны ёсць вялікія выпрабаванні, якія даюць адказ народу, на што ён варты і ці варты наогул на што-небудзь. І калі гэтыя выпрабаванні пераадольваліся з гонарам, то нашчадкі памятаюць пра іх у стагоддзях, успяваючы герояў і іх кіраўнікоў. Да такіх падзей адносім мы бітву пад Грунвальдам (15 ліпеня 1410 г.) і бітву пад Воршай 8 верасня 1514 года. Гэтыя падзеі прайшлі залатой ніткаю праз усю гісторыю Беларусі. Пра Вялікага князя Вітаўта і князя Астрожскага народ складаў песні.



Сёлета на Грунвальдскім полі зноў сабраліся рыцары еўрапейскіх краін, каб адзначыць гадавіну вялікай бітвы паміж Тэўтонскім ордэнам і войскамі Кароны Польскай і Вялікага Княства Літоўскага. Вялікае Княства прадстаўлялі беларускія рыцарскія клубы з Менска, Жодзіна, Ліды, Берасця, Полацка пад назвамі: "Княжы Гуф", "Золак", "Дайнова", "Берасцейская харугва", "Жалезны Воўк" і іншыя. Прыняць удзел у Грунвальдскай бітве прыехалі нават італьянцы, чэхі і, вядома ж, германцы, палякі.

11 ліпеня, раніцай, рыцары з Беларусі прыбылі на Грунвальдскае поле і пачалі абсталёўваць свой лагер, ставілі намёты; адбылася нарада камандзіраў, наладзілі варту лагера. Затым пачалася падрыхтоўка да баталіі. Беларускія рыцары выклікалі прыемнае здзіўленне ў удзельнікаў і шматлікіх прысутных, якіх з'ехалася больш за 70 тысячаў чалавек. Італьянцы былі здзіўлены тым, што ўсю амуніцыю беларусы рабілі самі. Многія прасіліся ўстаць пад нашыя сцягі ў час бітвы.



У адзначаны дзень аддзелы ў даспехах сталі высоўвацца на поле бітвы. Бітва пачалася са стрэлаў гармат і бамбардаў. Горкі парахавы дым завалок усё наваколле. Ўсе праходзіла па сцэнару, які быў "распрацаваны" амаль 600 год таму.

А пасля адбыўся рыцарскі пір у традыцыйным сярэднявечным стылі. Палякі паказалі сваю гасціннасць, выказалі сваю ўдзячнасць удзельнікам, запрасілі на свята на наступны год.

Цікава, што ўпершыню на Грунвальдскім полі ў якасці гледачоў юбілейнага свята беларусы прынялі ўдзел 12 год назад. Кіраўніком групы быў знакаміты гісторык Міхась Ткачоў

***А. Каралёў, гісторык.***

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

***Ад рэдакцыі:*** *Апошнім часам у газеце "Літаратура і мастацтва", заснавальнікам якой з'яўляецца Саюз беларускіх пісьменнікаў, ідзе лютае (іншага слова не падбярэш) цкаванне старшыні СБП Вольгі Іпатавай, якое пачалося пасля друкавання ёю артыкулаў пра гісторыю гвалтоўнага захопу Дома літаратара і будынка паліклінікі, а таксама пра сапраўдныя адносіны да пісьменнікаў з боку ўладных структур. У той жа час газета не друкуе звестак аб тым, што адбываецца ў творчым саюзе, наўмысна скажаючы факты і абвінавачваючы старшыню ў бяздейснасці. Больш таго, рубрыка "У Саюзе беларускіх пісьменнікаў" выкарыстоўваецца для сіл, зацікаўленых у тым, каб СБП ператварыўся ў паслухмяны, адданы ўладзе "творчы кантынгент", раўнадушны да трагічнага становішча беларускай мовы і занядбання нацыянальнай літаратуры.*

*Таму газета "Наша слова" уводзіць пастаянную рубрыку "У Саюзе беларускіх пісьменнікаў", каб на сваіх старонках даць магчымасць беларускаму чытачу знаёміцца з дзейнасцю СБП, які ўлады наўмысна загналі ў даўгі па заробку, але не могуць зламаць маральна.*

**А між тым, у Саюзе беларускіх пісьменнікаў:**

* 4 жніўня споўнілася 85 гадоў народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю.

На радзіме, роднай Карэліччыне, віталі выдатнага пісьменніка, майстра беларускага слова старшыня СБП В. Іпатава, пісьменнікі Э. Ялугін і А. Рыбак, а таксам[illegible]адэмік Р. Гарэцкі. Янка Брыль паказаў сваім калегам любімыя ім мясціны на Нёман[illegible] [illegible]адзяліўся думкамі аб стане сучаснай літаратуры.

** Пісьменнікі шчыра віталі свайго калегу, арганізатара Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, віца-прэзідэнта ПЭН-цэнтра, знакамітага даследчыка Адама Мальдзіса з 70-гадовым юбілеем. Цёплыя, прачулыя словы пра яго сказалі В. Казько, А. Пашкевіч, С. Законнікоў, У. Някляеў, М. Скобла. "Літаратурная і грамадская дзейнасць А.Мальдзіса можа служыць узорам служэння сваёй радзіме", - адзначыў А. Вярцінскі.

*** У рамках "Году Тараса Шаўчэнкі" 16 жніўня ў Доме літаратара прайшла вечарына, якую ладзілі СБП і суполка украінцаў "Ватра". На ёй выступілі прэзідэнт беларускай грамадскай арганізацыі украінцаў В. Гутоўскі і самадзейныя артысты з Менска і Маладзечна. Свае вершы аб Украіне і пераклады з украінскай мовы чыталі лаўрэат прэміі імя Р. Скаварады паэт С. Законнікаў, пісьменніцы В. Іпатава і І. Качаткова.

**Выказваю шчырую падзяку ўсім тым, хто ўспомніў пра мой юбілей, напісаў пра мяне колькі слоў, прыслаў віншавання або пазваніў з гэтай нагоды.**

**Асаблівая ўдзячнасць – кіраўніцтву, арганізацыям, раённай бібліятэцы Астравецкага раёна, якія наладзілі сардэчную юбілейную вечарыну.**

**За добрыя словы пастараюся аддзячыць працай.**

**Адам Мальдзіс.**

## Беларускі месячнік "Гаворым па-беларуску"

Бальшыня з нас ведае родную мову – тытульную мову нашай дзяржавы. Але пра нас гавораць: беларус – гэта нямы, гэта той, хто баіцца размаўляць на сваёй роднай мове. Мы прапануем правесці месячнік беларускай мовы накшталт месячнікаў бяспекі дарожнага руху. Тым болей, што на пачатку верасня ў старажытным Міры пройдзе афіцыйнае святкаванне Дня беларускай пісьменнасці.

Дзеля гэтага не трэба выходзіць на дэманстрацыі і падаваць заяўкі на пікеты. Кожны сам можа стаць узорам абаронцы мовы для родных, блізкіх, сяброў і прыяцеляў. Павітайся па-беларуску, скажы калегу ці суседу ранкам "Дабры дзень", увечары па-беларуску развітайся, скажы "Дабранач". Прачытай свайму дзіцяці ў роднай мове добры вершык. Можа ён яго вывучыць. Напішы знаёмаму паштоўку ці ліст па-беларуску. Ці пры аплаце камунальных рахункаў запоўні па-беларуску квіток. Падзякуй чалавеку за добрую справу ў роднай мове.

Кожны сам можа асэнсаваць меру свайго ўдзелу ў месячніку беларускай мовы. Калі гавораць па-беларуску трое, то далучыцца і чацвёрты, які не меў смеласці пачынаць такую гаворку сам.

Можа мы зробім так, што беларуская говорка стане звычкай. Ніхто апроч нас гэта рабіць не будзе.

Адзнач Дзень беларускай пісьменнасці беларускім словам. Табе ёсць чым ганарыцца. Гэта на тваёй мове, мове тваіх дзядоў размаўляў і друкаваў кнігі Францішак Скарына, а ён быў адным з самых перадавых і адукаваных людзей свету.

Памятай пра лепшых. Будзь сам сабой. Будзь першы.

Са сваімі прапановамі і пажаданнямі ты можаш звярнуцца ў сядзібу Таварыства беларускай мовы.

**Наш адрас:** Менск, вул. Румянцава, 13.

**Наш тэлефон:** 2-84-85-11.

***Сакратарыят ТБМ.***




### *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Кляшчук Сяргей - 5000 р.
2. Еленскі Уладзімір - 2000 р.
3. Крысёнак Аляксей - 1000 р.
(усе - удзельнікі плянэру разьбяроў)
4. Будаўнік Менска - 60000 р.
5. Ахвяраванні удзельнікаў свята ў Вязынцы - 5500 р.
6. Надзея Барт-Юрэвіч, Германія - 50 еўра
7. Аймар А. Ноаар, Эстонія - 5000 р.
8. Казлоўская Іна, Менск - 1000 р.
9. Кастусь Варабей, ЗША - 50 дол.
10. Міхась Швэдзюк, Англія - 10 фунтаў
11. П. Шаўцоў, Англія - 5 фунтаў
12. М. Баяроўскі, Англія - 20 фунтаў
13. С. Будкевіч, Англія - 50 дол.
14. Таццяна Козак, Латвія - 7,5 дол.



# Ратуйма беларускамоўную меншыню!

Такое абяцанне, у што ўжо ніхто даўно не верыць, выказаў 29 мая 2001г., г. зн. праз адзінаццаць дзён пасля Другога ўсебеларускага сходу, дзе аніводзін з чыноўнікаў-выступоўцаў, прадстаўнікоў інтэлігенцыі не прамовіў па-беларуску, і прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў прывітанні да ўдзельнікаў XIII з'езду беларускіх пісьменнікаў: "Мы ніколі не адрачомся ад сваіх каранёў, роднай беларускай мовы, культуры".

А на справе многія ж з далёка не шараговых у палітычным жыцці асобаў да такой ступені адракліся ад гэтых нацыянальлных духоўных каштоўнасцяў, што невядома з дапамогай якой сілы можна было б вярнуць гэтых людзей да ўласных каранёў, роднай мовы і культуры.

Па ўсім відаць, што ў варунках, калі сама дзяржава адкрыта выступае ў ролі Вандэі адраджэння беларускй мовы, нам давядзецца правесці яшчэ ні адно дзесяцігоддзе ў моўных пакутах, таму і надалей праблема захавання беларускамоўнай меншыні беларускага народа не страціць сваёй вастрыні. Закладзены антынацыянальнымі палітычнымі сіламі падзел яго на дзве моўныя часткі, большая па колькасці з якіх жыве мовай суседняй краіны і ў нашым доме знаходзіцца пад моцным дзяржаўным пратэктаратам, заўжды будзе трымаць грамадства на мяжы лінгвістычнага расколу і раздраю. Спакойна і бесканфліктна пачуваць сябе можа толькі моцна этнічна скансалідаваны народ, які атрымлівае сокі ад сваіх каранёў, сілкуецца з роднай разложыстай кроны. Моц народа – у моўным адзінстве, якога ў нас ужо даўно няма, што не дае падставаў спыніць змаганне за яго.

Дзеля надзейнага выратавання беларускамоўнай меншыні – залатога фонду беларусаў, які працягвае жыць у роднай мове, мы мусім збудаваць для яго надзейную ахоўную нацыянальную цытадэль накшталт легендарнага Ноевага каўчэга. Бясспрэчна, адплываць на ім ад родных берагоў не стане беларускамоўны асяродак. Ён павінен не на чужыне, а на землях любай Бацькаўшчыны з белаарускамоўнай меншыні пераўтварыцца ў беларускамоўную бальшыню. А такое здзейсніцца толькі ў варунках, калі беларускамоўную бальшыню. А такое здзейсніцца толькі ў варунках, калі беларускамоўную частку беларускага народа надзеляць на яе гістарычнай тэрыторыі прававым статусам нацыянальнай меншыні.

У адпаведнасці з сучаснымі міжнароднымі нарматыўнымі актамі нацыянальныя меншыні карыстаюцца даволі шырокім колам правоў. Тым больш яны павінны быць гарантаваны ў самым поўным аб'ёме беларускамоўнай меншыні, паколькі яна жыве на ўласнай зямлі і непадзельна ні з кім ўвасабляе сабой яе спрадвечныя нацыянальныя, культурна-моўныя традыцыі, захоўвае за Беларуссю права называцца сваім імем. З самых прынцыпова важных міжнародных нарматыўных актаў, што рэгулююць розныя пытанні жыцця нацыянальных мяншыняў, хацелася б у першую чаргу назваць Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах 1966 г. У яго 27-м артыкуле запісана: "У тых краінах, дзе існуюць этнічныя, рэлігійныя і моўныя мяншыні, асобам, што належаць да такіх мяншыняў, не можа быць амоўлена ў праве сумесна з іншымі сябрамі той жа групы карыстацца сваёй культурай... роднай мовай". Сучасныя дзяржаўныя ўлады Беларусі не могуць не ўлічваць і слушнага каментарыя палажэнняў да Растлумачальнага даклада да рамачнай канвенцыі аб абароне нацыянальных мяншыняў ад 18 красавіка 1995 г. (арт. 10): "Прызнанне правоў кожнай асобы, якая належыць да нацыянальнай меншыні, бесперашкодна карыстацца сваёй роднай мовай асабліва важна. Выкарыстанне мовы меншыні з'яўляецца адным з асноўных сродкаў, з дапамогай якіх гэтыя асобы могуць адстаяць і захаваць сваю самабытнасць" (Правы мяншыняў. Мн., 1998. с. 57.83). Дый сам артыкул 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь: "...Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання" пры наяўнасці ў беларускамоўнай меншыні прававога статусу нацыянальнай меншыні адкрываў бы шырокую магчымасць для здзяйснення сваіх ідэалаў у розных сферах духоўнай творчасці. Пры адсутнасці такога статусу беларускамоўная меншыня з-за дэструктыўных паводзінаў рускамоўнай бальшыні ў асобе сам'і дзяржавы ніколі не правядзе ў жыццё такія ідэалы

### 4. Палітычнае і тэрытарыяльнае ўладкаванне беларускамоўнага насельніцтва.

Акрамя забеспячэння на высокім дзяржаўным узроўні ўсіх неабходных умоваў для бесперашкодвага, дынамічнага нацыянальльнага, культурна-моўнага развіцця беларускамоўнай меншыні, трэба на такім жа ўзроўні паклапаціцца і пра наданне ёй пэўных палітычных правоў, бо досвед апошніх гадоў яскрава сведчыць, што рускамоўная бальшыня краіны, прыбраўшы да сваіх рук усю ўладу, зусім не ўлічвае інтарэсы беларускамоўнай меншыні. Яна зусім не прадстаўлена, а калі і прадстаўлена, дык толькі адзінкамі ў Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусь, створаных рэзідэнтам краіны шырока разгалінаваных звёнах вертыкальнай улады, у рэспубліканскіх адміністрацыйна-гаспадарчых апаратах, Вярхоўным судзе, Рэспубліканскай пракуратуры. Ніхто не паклапаціўся выдзяліць хоць некалькі мандатаў і даць слова прадстаўнікам беларускамоўнай меншыні на Другім усебеларускім сходзе. І ўсё гэта таму, што ў нас юрыдычна не аформлена беларускамоўная нацыянальная меншыня, а калі не аформлена, значыцца, яна не карыстаецца ніякімі палітычнымі і іншымі правамі, пры рэалізацыі якіх можна было б максімальна ўлічыць яе інтарэсы.

Гэтае невыгоднае, стратнае для беларускамоўнай меншыні становішча трэба крута мяняць да лепшага. Ёсць неабходнасць стварэння беларускамоўных па форме і змесце асяродкаў на ўсіх ключавых участках дзяржаўных органаў улады і кіравання, каб ужо ў бліжэйшы час павысіць ролю беларускага нацыянальнага фактару ў іх практычнай дзейнасці, спыніць далейшае скарачэнне колькасці беларускамоўнай меншыні, а, наадварот, забяспечыць яе паступовы колькасны рост. Пры тым трагічным становішчы, у якое, калі варожыя, а калі і не разважлівыя, неабычлівыя палітыкі загналі нацыянальнае ядро, будучае беларускага народа, нам не абысціся толькі адным рускамоўным прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Побач з ім павінна стаяць магутная фігура беларускамоўнага прэзідэнта, якія ўдвух павінны выступаць у статусе супрэзідэнтаў краіны. Адзін з іх будзе адстойваць інтарэсы рускамоўнай бальшыні беларускага народа, што на выдатна рабілася на працягу апошніх сямі гадоў, другі – беларускамоўную меншыню, якая ўсе гэтыя сем гадоў была па-за ўвагай прэзідэнцкай улады і несла толькі адны страты. Пры ўвядзенні беларускамоўнага супрэзідэнта Рэспублікі Беларусь такой злыбядзе ў нас не будзе месца.

Не выключаецца і такога, што не толькі дзеля надзейнага захавання, але і ўстойлівага развіцця беларускамоўнай меншыні, давядзецца заняцца і вырашэннем яе тэрытарыяльнага пытання, каб прадстаўнікам гэтай часткі карэннага насельніцтва краіны, забяспечыць кампактнае пражыванне, так як гэта, да прыкладу, зроблена праз стварэнне спецыяньных рэзервацый (калоній) для абарыгенаў ЗША. Як толькі наспее пытанне, у гэтую краіну неабходна паслаць дзеля вывучэння назапашанага ёю досведу ладавання жыцця туземцаў нашых самых кваліфікаваных і прачуленых нацыянальнымі клопатамі палітыкаў і этнографаў, якія, напэўна ж, прывязуць адтуль шмат чаго каштоўнага і карыснага для арганізацыі рэзервацыі для беларускамоўнай меншыні. Месцам для гэтага павінен быць выбраны самы багаты на беларускія гістарычныя, этнакультурныя традыцыі куточак роднай Бацькаўшчыны. У ім павінна быць ўсё: і нацыянальная сістэма адукацыі, і нацыянальныя тэатры, і нацыянальныя выдавецтвы, газеты і часопісы, радыё і тэлебачанне. Каб гэтыя архіважныя кампаненты самабытнага беларускага нацыянальнага жыцця дзейна працавалі на яго інтарэс, у рэзервацыі беларускамоўнай меншыні трэба будзе стварыць нешта накшталт і свайго нацыянальнага ўрада, надзеленага самым шырокім колам правоў. Пад адміністрацыйна-палітычную рэзервацыю трэба выбіраць адносна невялікі паводле сваіх памераў населены пункт, прычым такі, каб і ў ім самім не назіралася істотнай колькаснай перавагі рускамоўных жыхароў над беларускамоўнымі.

Можна спадзявацца, што ідэя стварэння рэзервацыі для беларускамоўнай меншыні знойдзе шырокі рэзананс ў грамадстве і давядзецца заснаваць не адну, а некалькі такіх рэзервацый. І ў гэтым ёсць рэзон, бо чым больш будзе такіх рэзервацый, тым хутчэй будуць мяняцца колькасныя суадносіны паміж беларускамоўнай меншынёю і рускамоўнай бальшынёю на карысць першай.

Улічваючы зацяжныя фінансавыя цяжкасці ў краіне, у яе заўжды будзе неставаць сродкаў на пакрыццё ўсіх выдаткаў па захаванні і забеспячэнні ўстайлівага развіцця беларускамоўнай меншыні. Паколькі яе з'яўленне на свет, як ужо не раз адзначалася, ёсць вынік антынацыянальнай палітыкі ўсіх дзяржаўных рэжымаў, што існавалі і існуюць у краіне, значыцца, усе выдаткі на гэтую справу павінна ўзяць на сябе ўлада. І скупіцца тут будзе зусім недарэчы, бо размова ж датычыць развязвання самай актуальнай лёсавызначальнай для ўсяго беларускага народа праблемы – захавання яго этнічнага, а значыцца і элітарнага ядра. Беларускамоўная меншыня – гэта не "тутэйшыя" XIX – пачатку XXст. Гэга тая азіная на сёння сіла, якая засцярагае і працягвае генетычны код беларусаў. Гэта сапраўдная нацыянальная эліта, усе запатрабаванні якой, асабліва культурна-моўныя, дзяржаўнымі ўладамі павінны задавальняцца ў поўным аб'ёме, інакш не будзе назірацца так неабходнага для карэнных інтарэсаў народа паступовага перарастання беларускамоўнай меншыні ў беларускмоўную бальшыню, што толькі і зможа выратаваць яго ад канчатковай этнічнай эрозіі.

Хацеў бы патлумачыць чытачу, што сваімі разважаннямі пра ўладкаванне жыцця беларускамоўнай меншыні ў рэзервацыі ці рэзервацыях ж я зусім не стаўлю мэтай ізаляцыю ўсёй астатняй тэрыторыі нашага краю ад нацыянальна-адраджэнскіх працэсаў, інакш яго жыхарству не ўхіліцца ад таго трагічнага лёсу, які ў свой час напаткаў этнічных беларусаў Смаленшчыны, Браншчыны і Пскоўшчыны. Паколькі пры захаванні сучаснай сістэмы ўлады паранейшаму будзе працягвацца характэрны для апошніх гадоў курс дзяржаўнай палітыкі русіфікацыі, трэба, каб насельніцтва ўсёй краіны знаходзілася ў сферы ўплыву нацыянальна зарыентываных сіл грамадства, якія пры любых умовах павінны працаваць на адраджэнне, стабілізацыю беларускага духу ва ўсім народзе. І толькі ведаючы пра абыякавасць, варожасць дзяржавы да нацыянальна-адраджэнскіх памкненняў, адсутнасць усялякай магчымасці ўздзеяння на яе з боку прагрэсіўных міжнародных арганізацый, я не бачу іншага варыянту спыніць размыванне, а пры спрыяльных варунках нават умацаваць патэнцыял беларускамоўнай меншыні, як толькі праз наданне апошняй прававога статусу, а пры неабходнасці і стварэння для яе рэзервацыі (рэзервацый).

Праблема архіскладаная. Адшукаць правільныя, эфектыўныя сродкі яе развязвання зусім не проста, тым больш, што ўвесь час будзе даводзіцца сутыкацца з шалёным супраціўленнем гэтаму дзяржавы і безнадзейна зрусіфікаванай бальшыні насельніцтва краіны.

Страшэнны сваімі памерамі моўны развал беларускай нацыі не можа і надалей заставацца па-за межамі глыбокага сур'ёзнага асэнсавання шляхоў надзейнага выйсця з такога становішча, што непадуладна высілкам толькі якога-небудзь аднаго аўтара. Трэба прызнаць, што падобнага небяспечнага моўнага разлому беларускага народа, як сёння, айчынная гісторыя яшчэ не ведала. Таму яшчэ ніколі не было такой вострай патрэбы стацыянарнага лячэння моўнай хваробы беларускага народа, як сёння. І лячыць яе трэба не ў якой-небудзь закінданай у сельскай мясцовасці, спарахнелай бальніцы, а ў самых сучасных медыцынскіх установах, добра забяспечаных дасведчанымі кадрамі, лекамі. Пакінуць народ сам-насам ва ўмовах добра адладжанай дзяржаўнай палітыкай русіфікацыі – значыцца міжвольна быць саўдзельнікам яго этнакультурнага вымірання. Такая пасіўнасць зарыентаванай на нацыянальны інтарэс часткі грамадства была б вельмі пажаданая для нашай дзяржавы, бо гэта толькі садзейнічала б ажыццяўленню яе планаў па канчатковай русіфікацыі беларускага народа, што разглядаецца ўладамі як найважнейшы фактар палітычнага аб'яднання Беларусі з Расіяй у адну дзяржаву.

***Леанід Лыч, доктар гістарычных навук, прафесар.***

### *Ад рэдактара.*

*Нашая газета друкуе гэты артукул Леаніда Лыча ў сілу таго, што прафесару, доктару гістарычных навук не далі паўнавартасна выступіць на нядаўнім міжнародным сімпозіюме "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі", пра што нядаўна пісаў у "Народнай волі" Ніл Гілевіч. Таварыства беларускай мовы было адным з арганізатараў кангрэсу, таму мы маем маральны абавязак неяк кампенсаваць недасказанае.*

*Я не ведаю, ці гэты матэрыял хацеў агучыць прафесар Лыч, але па сутнасці артыкула мушу сказаць наступнае.*

*Для мяне асабіста артыкул не з'яўляецца **нават палемічным**. Я, як і большасць сяброў дзесяцітысячнай арганізацыі ТБМ, прытрымліваюся прынцыпу, сфармуляванага першым старшынём ТБМ Нілам Гілевічам: **"На Беларусі павінна быць абсалютнае панаванне беларускай мовы"**, і ніякія самыя разумныя і рацыянальныя пасылкі і ідэі не прымусяць мяне і ў жахлівым сне пагадзіцца нават з існаваннем тэрміну **"стварыць рэзервацыю для беларусаў у Беларусі"**, а не тое што неяк абмяркоўваць яго ці нешта ў ім аспрэчваць.*

*Як рэдактар газеты па ўзгадненні з старшынём ТБМ я друкую гэты матэрыял, а кожны, хто здалее разабрацца, што нам прапануюць, можа напісаць нам ці ў іншую газету. Найбольш сур'ёзныя матэрыялы мы пастараемся надрукаваць.*

***Станіслаў Суднік, рэдактар газеты "Наша слова".***

# МАЮ МОВУ ЗРАЗУМЕЛІ Ў АФРЫЦЫ

Аж у далёкай Афрыцы давялося мне разважаць над паходжаннем беларускага слова ***“цыбуля”***. Там, аднойчы ў абед, служанка паставіла на стол ежу, першым узяла я салат, паспрабавала і ўслых заўважыла: *“Мне хацелася каб тут было больш цыбулі”*. Служанка выйшла на кухню, вярнулася і падала мне сподачык, дзе была нарэзана цыбуля. Я здзівілася і запытала ў дачкі: *“Алёнка, ні ты, ні хтосьці іншы за сталом не сказаў Флоры прынесці мне цыбулі, то чаму яна падала ў адказ на маю заўвагу? – Мама, Флора сама цябе зразумела”. Але ж за сталом мы размаўляем па-беларуску, то як афрыканка магла нешта зразумець з нашай гаворкі? – Флора хоць мазамбіканка, але добра валодае партугальскай, а назва цыбулі там сугучнае нашаму:* ***“cebola”***, *а з зялёнымі перкамі называюць* ***“cebolinha”***. Такі адказ мяне не задаволіў, а як кажуць у народзе, зусім збіў з панталыку, прымусіў да далейшых развагаў.

У Беларусі ўсім ужа затлумілі галовы аб несамастойнасці беларускай мовы: адны бачаць у ёй дыялект польскай, другія сапсаваную расейскую. Увогулле, хто як хоча так трасе і лупіць мову народа, які мае свайго прадстаўніка ў ААН, што сведчыць аб самастойнасці дзяржавы. Сапраўды, калі ў палякаў назва такой расліны аналагічна беларускай ***“cebula”***, то тады не зразумела хто ад каго запазычыў гэтае слова – палякі ад партугальцаў, ці апошнія ад першых? Хаць у рэспубліцы ў нас усе адукаваныя людзі і разумеюць, што ўзаемапранікненне моў – агульначалавечы працэс, але ўсё ж цікава чаму маё беларускае слова зразумелі ў далёкай Афрыцы праз партугальскую? Адна справа, калі такое слова сугучна вымаўленню нашых суседзяў – украінцаў ***“цибулина”***, як крэўнаму славянскаму люду, то іншая -- дзіва, партугальцы не значацца ў пераліку славянскіх народаў: рускія, украінцы, беларусы, палякі, чэхі, славакі, сербы-лужычане, кашубы, балгары, сербы, харваты, славенцы, македонцы, баснийцы. І як даўно вызначылі вучоныя: мовы славян складаюць асобную группу індаеўрапейскай сям'і моў. У такім разе за адказам трэба звярнуцца да высокаінтэлектуальных людзей, а яны кажуць: у глыбокай старажытнасці мелася адна мова і таму ў мове шматлікіх народаў сустракаюцца сугучныя словы. Гэта толькі розная пабудова моўнага апарата чалавека іншых народаў надае вымаўленню нацыянальную адметнасць, але пры жаданні можна лёгка авалодаць некалькімі мовамі розных краін. Пакуль такіх спецыялістаў, як паліглоты, у нашай рэспубліцы магчыма пералічыць па пальцах. У такім разе у першую чаргу праяўляецца ніштo іншае, як пралікі, недахоп сучаснай афіцыйнай педагогікі.

Супраўды, што мы сёння маем у справе вывучэння моў у Міністэрстве адукацыі? Пачалі тлуміць галоўкі дзетак, пачынаючы з садкоў, ангельскай, і тым самым гарэзна адводзіць увагу нашчадкаў славян ад славянскіх моваў. Вучоныя, але нажаль не палітыкі, разумеюць – славянская цывілізацыя ў трэцім тысячагоддзі хрысціянскай эры магла б паслужыць штуршком для прагрэсу культуры ўсяго чалавецтва, як у свой час значную ролю адыграла антычная. Абяднаннем расейцаў і беларусаў, ці ў дадатак славакаў, украінцаў не вырашыць праблему, паколькі колькасны лік славянаў гэтымі народамі не пачынаецца і не заканчваецца. Таму аб'яднаць славянаў можна, пачынаючы вывучэнне іх моваў, культуры, ездзячы часцей па турыстычных дарогах гэтых краін, заўсёды бываць на агульных канферэнцыях... Пакуль такі працэс ідзе дзякуючы намаганням Адама Мальдзіса з адной славянскай краінай, нашай суседкай - Польшчай. Навізну кірунку, узятага ім, многія сучасныя навукоўцы не здольныя зразумець і ацаніць. А вось, скажам, другога, трэцяга... такога рупліўца і не стае ў рэспубліцы, каб узяць дзейсны кантакт, напрыклад з Балгарыяй, Македоныяй і іншымі славянскімі краінамі.

Навошта ж нам беларусам славянам клапаціцца так руплiва падводзіць сваіх дзетак да той ангельскай, бо хто ведае, мо яна праз 20-50 год саступіць нейкай іншай моднай, як у свай час сышла лацінская, нямецкая, французская. Вось вырастуць нашы дзеткі выразна акрэсліцца іх прафесійная арыентацыя, з патрэбай той ангельскай, то і магуць яе асіліць падчас навучання ва ўніверсітэтах. Паколькі ў беларускай мове шмат сугучных слоў усім славянам, то пачынаючы з садкоў, пачатковых класаў магчыма, менавіта, праз яе прывіць дзецям любоў да моў народаў свету.

Вядома, Міністэрству адукацыі ўраз узяць кірунак, каб у адной са школ вучні вывучалі, скажам, македонскую, у іншай – харвацкую, у трэцяй – славацкую, дзе дарэчы тая цыбуля гучыць ***“сівула”*** не так і будзе проста, дасць знаць недахоп настаўнікаў моваведаў шырокага профілю. Таму давядзецца мяняць, карэктаваць існыя праграмы лінгвістычных універсітэтаў – аднаму з іх узяць кірунак на вывучэнне толькі славянсіх моў, дзе студэнты будуць вывучаць тую ж ангельскую не як галоўны прадмет, а дзеля сваёй асабістай прафейійнай кваліфікацыі.

Да слова хочацца прыгадаць прафесара Фёдара Янкоўскага, які ў аспірантуры прымаў у мяне экзамен польскай мовы. Ён расказваў, што ў дзяцінстве, сябруючы з суседнімі хлапчукамі, вывучыў габрэйскую і татарскую, а на кватэры ў паляка-лесніка – дасканала -- польскую. Паступіўшы ў навучальную вышэйшую ўстанову ён меў веды па пяці мовах, далей было асабліва лёгка вывучыць нямецкую, чэшскую... Сёння згубіўся той натуральны асяродак, які падводзіў нашых дзядоў да моў іншых народаў – усе размаўляем па-руску, усе вучым дзесяць год -- рускую. Паколькі тэмп жыцця паскорыўся, нават пайшло іншае фізічнае развіццё дзіцяці, то нявартa яго мучыць усе дзесяць год той рускай ні ангельскай мовай. Чаму не даць яму магчымасці падчас навучання ў школе ў адным з класаў пазнаёміцца з украінскай, у іншых – з чэшскай, македонскай... Важна, каб у школе падвесці дзіця да мовы, спадабаецца, праявяцца лінгвістычныя зольнасці, даць магчымасць далей самастойна вывучаць у гуртках створаных пры Палацах моладзі. Такім чынам, калі згубіўся натуральны асяродак штатмоўя, то Міністэрства адукацыі, як бы штучна магло б паспрыяць яго звароту, да таго ж турызм, хоць ускосна, можа садзейнічаць адраджэнню мясцовых моў усяго свету.

У свой час вялікі расейскі пісьменнік Леў Талстой раіў не перацяжарваць псіхіку дзіцяці складанай праграмай. Да парад гэтага цудоўнага настаўніка ні ў нас, ні ў самой Расеі метадычныя службы Міністэрства не хочуць прыслухоўвацца. Урэшце маем вынік – дзеці наогул не хочуць вучыцца. Нутро маленькага чалавека па-свойму змагаецца з тым цяжарам, які накінулі на немаўлят аўтары школьных праграм па матэматыцы, фізіцы. Ёсць шмат прафесій, дзе чалавек можа абысціся і без гэтых ведаў, да таго ж псіхолагі скажуць, не ўсё што пачута, вывучана ў школьныя гады, запамінаецца назаўсёды, а вось без мовы – чалавек нямы, а без валодвання некалькімі – ў яго чэрствая душа. Пры гэтым многія карэнныя беларусы жадаюць, каб ў школах вывучалася мова народаў, якія шмат стагоддзяў жывуць у Беларусі – габрэйская, татарская. Беларускія вучоныя змаглі б яшчэ дзеля такіх праграм, ажывіць старадаўнюю мясцовую габрэйскую, татарскую мовы, што ўнесла б значны акорд у сусетную сучасную культуру гэтых нацыяў.

Ніхто акрамя славянаў не стане рупіцца аб адраджэнні славянскай культуры, а ў гэтай справе значная роля належыць настаўнікам беларускай мовы. Гэта яны, валодаючы адначасова некалькімі славянскімі мовамі, маглі б стаць у шэраг паліглотаў, што значна павысіла б іх аўтарытэт, у апошнія гады канчаткова знішчаны. Гэта яны, беларускія настаўнікі, склалі б аснову творчага саюза, “Саюза перакладчыкаў”, якога пакуль у краіне, здаецца, няма, але жыццё патрабуе.

Хібы савецкай адукацыі адчуваю на сабе, бо ніхто з настаўнікаў у свой час не падказаў да якіх вяршынь павінен імкнуцца кожны вучань – стаць высока эрудаваным паліглотам. Вось і атрымоўваецца, што ў старасці я мушу вывучыць партугальскую і не толькі дзеля паразумення са сваімі ўнукамі, але любоў да роднай мовы прымушае пашукаць у партугальскай сугучных слоў, бо цяжка паверыць, каб там існавала адзінае толькі слоўца ***“цыбуля”***.

***Марыя Жабінская.***

# Мы згубілі самааданага чэшскага сябра

19 жніўня з Прагі прыйшла сумная вестка: пасля доўгай і цяжкай хваробы, складанай аперацыі на сэрцы памёр Вацлаў Жыдліцкі, даследчык і перакладчык беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Доўгі час ён уваходзіў у склад яе камітэта, выступаў на яе кангрэсах і канферэнцыях.

Вацлаў Жыдліцкі нарадзіўся 16 красавіка 1931 г. на Украіне – у вёсцы Тупічаў Турыйскага раёна Валынскай вобласці. У 1955 г. скончыў Карлаў універсітэт у Празе, у 1967 г. абараніў там доктарскую дысертацыю, у 1976 г. стаў прафесарам. Побач з украінскай актыўна пашыраў у Чэхіі беларускую літаратуру, чытаў пра яе курс лекцый ва універсітэце, заахвочваў да яе вывучэння студэнтаў. Аўтар такіх прац, як “Украінская і беларуская літаратура ў чэшскіх перакладах (1956), “Малы слоўнік савецкіх пісьменнікаў. Частка 2. Украінскія і беларускія пісьменнікі” (1959, 1966), “Даследаванні па гісторыі чэшска-беларускай супольнасці” (1960), “Кароткі нарыс гісторыі беларускай літаратуры” (1972) і інш.

В. Жыдліцкі многа і на высокім узроўні перакладаў з беларускай мовы на чэшскую. Сярод яго перастварэнняў – “Я з вогненнай вёскі...” А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка, “Хатынская аповесць” А. Адамовіча, “Птушкі і гнёзды”, “Ніжнія Байдуны” і “Апошняя сустрэча” Я. Брыля, “Абеліск” і “Дажыць да світання” В. Быкава, “Дзікае паляванне караля Стаха”, “Нельга забыць”, “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” і “Чорны замак Альшанскі” У. Караткевіча ( з ім В. Жыдліцкага звязвала асаблівая дружба), “Данута” А. Карпюка, “Мсціжы” І. Пташнікава, “Гандлярка і паэт” і “Сэрца на далоні” І. Шамякіна і інш. Ім складзена анталогія сучаснай беларускай паэзіі”, аднатомнікі Я. Купалы і М. Танка на чэшскай мове, выхавана некалькі маладых перакладчыкаў. В. Жыдліцкі выдатна валодаў жывой беларускай мовай.

Бывай, дарагі дружа! У беларуска-чэшскім літаратурным узаемадзеянні табе няма замены.

**Камітэт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.**
**Адам Мальдзіс.**

Менчанін Зміцер Зайцаў - інжынер-рабатэхнік па адукацыі, захапіўшыся аднойчы працай з бяростай, зрабіў выбар паміж спецыяльнасцю і прызваннем на карысць апошняга. Яго здольнасці нібыта затаіліся да пэўнага часу, калі яго захапленне разбудзіла прага творчасці. Ён сам даходзіў да тонкасцяў прарэзнай тэхналогіі, выпальвання, ціснення. Сам майстраваў неабходныя інструменты, прыстасаванні, шукаў новыя формы для сваіх вырабаў, прыдумваў дэкор. Цяпер Зміцер -- сябар Саюза майстроў народнага мастацтва Беларусі.



**На здымку:** майстар Зміцер Зайцаў і яго вырабы.
**Фота Яўгена Казюлі, БелТА.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 3.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 26. 08. 2002 г.
Наклад 2400 асобнікаў. Замова № 1533.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.